

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№12 (снежня), 2016

# Мяжа




**По алгарытме «ПІПА» з нагоды чарговай гадавіны прыняцця Усеагульнай Дэкларацыі Правоў Чалавека ў Брэсце прайшла акцыя праваабаронцаў**

(старонка 11)

## ЗЬМЕСТ

# Суд над фермерам адкладзены – абвінавачаны шпіталізаваны



1 снежня суд над фермерам Мікалаем Бялчуком не адбыўся.

Хадайніцтва абароны аб змяненні меры ўтрымання Мікалаю Бяльчуку было суддзёй суда Брэстскага раёна г. Брэста Паўлам Главацкім адхіленае да часу з“яўлення абвінавачанага ў судзе.

Пасля чаго суддзя паведаміў прысутным, што ў суд паступіла паведамленне з СІЗА, дзе ўтрымліваўся абвінавачаны ў здзяйсненні злачынства па арт. 364 КК Мікалай Бяльчук, што абвінавачаны 29 лістапада 2016 года змешчаны ў рэанімацыйнае аддзяленне Брэсцкага абласнога шпіталя.

Нагадаем, у знак пратэсту супраць гвалтоўных дзеянняў супрацоўнікаў МУС Мікалай Бяльчук 1 лістапада абвесціў безтэрміновую сухую галадоўку, апошні час яму ў СІЗА рабілі кропельніцу, ён пачаў піць у абмежаванай колькасці ваду, часам кампот. Месяц галадоўкі пазбавіў Мікалая сіл, апошнія дні ён не мог нармальна перасоўвацца і хадзіць...

Пракурор Малейка і адвакаты Мікалая Бялчука заявілі хадайніцтва зрабіць перапынак у судовым пасяджэнні.

Суддзя абвесьціў перапынак да 2 снежня 2016 года. Пачатак далейшага разгляду справы прызначаны на 11 гадзін раніцы.

## Мікалай Бяльчук – у рэанімацыі

Пра тое, што фермер Мікалай Бяльчук знаходзіцца ў рэанімацыі, стала вядома пад час спробы працягнуць працэс над ім. Суддзя Суда Берасцейскага раёна Павел Главацкі абвясціў чарговы перапынак, ужо да 11-й гадзіны 2-га снежня.

Нагодай для абвяшчэння перапынку стаў атрыманы ліст з СІЗА №7, дзе паведамляецца, што Мікалай ад 29 лістапада знаходзіцца ў стацыянары.

Каментуе праваабаронца Уладзімір Вялічкін, які сочыць за працэсам:

— Тое, што яны не становяцца на калені і не ідуць на павадку у, як яны лічаць, незаконных патрабаванняў міліцыі, — гэта костка ў горле нашых органаў. Людзі ў форме здзекуюцца над усёй сям′ёй, над усёй вёскай.

Фермер Мікалай Бяльчук на знак пратэсту супраць дзеянняў міліцыі ад 1 лістапада трымае галадоўку ў СІЗА №7. Раней сваякі спрабавалі дамагчыся ягонага перавода ў шпіталь, але безвынікова. «Ц гэта атрымалася зрабіць толькі коштам ягонага здароўя», — паведамляюць родныя Бельчука. Ягоны брат Аляксандр таксама знаходзіцца ў СІЗА №7 за спробу абараніць брата ад выкрадання невядомымі.

http://www.racyja.com/hramadstva/mikalaj-byalchuk-u-reanimatsyi/

## Калі сёння суд прызнае Мікалая Бяльчука, фермера, чалавека здольнага бараніць сябе, сваю сям“ю, праўду сумленнага чалавека – заўтра гэтую нялюдзкую «дзяржаўную сістэму кіравання» людзі, падобныя Бяльчукам, змятуць!

«Злачынствы супраць парадка кіравання падважваюць саму сутнасць дзяржаўнага кіравання», - такімі словамі распачала сваю прамову пракурор Ірына Марэйка: «Мікалай Бяльчук здзейсніў гвалт у дачыненні да пацярпелага інспектара Неліповіча... Абінавачаны




сваёй віны не прызнае. Ягоныя аргуманты выклікаюць сумнеў. Ягоная віна падцвярджаецца паслядоўнымі сведчаннямі супрацоўнікаў міліцыі, і пісьмовымі дакумантамі: рапартам Неліповіча, матэрыяламі экспертыз...» - Сведчанні ж Бяльчукоў, сказала яна, супярэчлівыя.

Пракурор палічыла віну абвінавачанага Мікалая Бяльчука цалкам даказанай. У сувязі з чым прасіла суд прызначыць абвінавачанаму 2 месяцы арышту., тэрмін пакарання адлічваць з моманту затрымання, з 12-га кастрычніка.

Пацярпелы Сяргей Неліповіч выказаў сваё гледжанне падзей 9 траўня 2014 года: «9 мая была праведзеная добра спланаваная акцыя!!! Хто фатаграфаваў?! Хто выстаўляў здымкі ў СМІ?! Калі б на маім месцы быў нейкі іншы супрацоўнік міліцыі. Калі такім чынам можна любога падвесці да невядома чаго! Можа нехта праплаціў гэта?! Так рабіць нельга! Супрацоўнікі міліцыі мусяць выконваць свае абавязкі і ім супрацьдзеяць забаронена!»

Адвакаты ж мелі супрацьлеглае мяркаванне:

Начальнік Брэсцкага РАЎС Юры й Грыка пабачыў трактар. Паслаў кіроўцу высвятліць, ці трактар зарэгістраваны. Дакумантаў на

трактар не было. Паведаміў дэжурнаму. Прыехаў участковы, потым інспектар ДАІ Сяргей Неліповіч. Участковы з“ехаў па вызаву. Інспектар застаўся сам. Прыехалі Бяльчукі. Запхалі трактар у гараж. Адбыліся падзеі сведкамі якой былі інспектар ДАІ Неліповіч, Бяльчукі Аляксандар, Мікалай, Віктар і іх сваяк Івянец.

Усе сведкі з боку міліцыі не былі сведкамі здарэння, іх сведчанні абапіраюцца на аповядах інспектара Неліповіча. Мінула больш за 2 гады і яны ўспомнілі тое аб чым раней не згадвалася, укусы, называюць элементы вопраткі якой на Неліповічу не было (блакітная кашуля , форменны піджак). Апісваюць выгляд пабітага твара Неліповіча – пасіненне, чырвоны твар, смяшчэне носа, прыпухлы нос, кроў з носа, кроў на твары...

(Варта азнаёміцца са здымкамі з моманту здарэння)

Неліповіч прадаставіў калегам звесткі ў карыснай для сябе форме!

Само здарэнне распачалося з невыканання норм заканадаўства, з распараджэння кіраўніцтва, адданага не ў пісьмовай, а вуснай форме.

Інспектар ДАІ Сяргей Неліповіч не выкарыстаў наяўныя магчымасці распачаць адміністратыўны працэс.

Нягледзячы ні на што Неліповіч перакананы, што ўсе ягоныя дзеянні законны (беспадстаўна ўварваўся на прыватны падворак, не прдставіўся, спрабаваў канфіскаваць трактар не маючы на тое падстаў...)

Ніводнае з патрабаванняў інспектара ДАІ С.С. Неліповіча не абапертае на законе!

Абарона перакананая, што абвінавачаны мусіць быць судом апраўданы.

Пасля перапынку суддзя Павал Главацкі абвесціў рэзультатыўную частку:

Прызнаць Мікалая Бяльчука вынаватым у злачынстве прадугледжаным арт. 364 КК «Гвалт або пагроза выкарыстоўвання гвалту ў дачыненні да супрацоўніка міліцыі» і прызначыць пакаранне ў выглядзе 2 месяцаў арышту.

Праваабаронца Уладзімір Вялічкін: «Цалкам схіляюся да мяркаванняў адвакатаў абвінавачанага - Неліповіч прадаставіў калегам звесткі ў карыснай для сябе форме. Каб схаваць свае незаконныя дзеянні і адпаведна пазбегнуць адказнасці. Бо ягоныя дзеянні спрычыніліся да «паўстання», мясцовыя жыхары, як пачулі пра канфіскацыю «кроўнага» самаробнага трактара, які рабілі ўсім «калгасам Бяльчукоў», бо гэта ВЁСКАСТВАРАЛЬНАЯ прозвішча, вырушылі на абарону свайго майна і сваіх парушаных правоў і беспадстаўна пакрыўджаных і арыштаваных аднавяскоўцаў! Як следства ў вёсцы Страдзеч на Дзень Перамогі ў 2014 годзе было задзейнічана шмат падраздзяленняў МУС і іншых структур вобласці, АМАП, ДАІ, РАЎС, Эксперты, «хуткая дапамога», прадстаўнікі мясцовай ўлады, мо яшчэ, што... Іх дзейнасьць была цалкам паралізаваная мясцовымі жыхарамі, дзяржаўная махіна мусіла адступіць.

Таму словы пракурора Марэйкі: «Злачынствы супраць парадка кіравання падважваюць саму сутнасць дзяржаўнага кіравання» тлумачаць сутнасць усёй гэтай справы і прысуду.

Калі суд прызнае сёння Мікалая Бяльчука, фермера, чалавека годнага, чалавека працы, чалавека здольнага бараніць сябе, сваю сям“ю, праўду сумленнага чалавека – заўтра гэтую нялюдзкую «дзяржаўную сістэму кіравання» людзі, падобныя Бяльчукам, змятуць!

А чаму два месяцы? Дык трэба даць 9 дзён на папраўку здароў“я пакаранага, які трываў галадоўку больш месяца. Як казаў герой адной вядомай камедыі – «Установа мусіць вярнуць грамадству паўнавартаснага грамадзяніна»

Слава Героям! Жыве Беларусь!»

## Чарговы суд за ўшанаванне нацыянальных традыцый

Днямі грамадскі актывіст з Кобрына Аляксандр Мех атрымаў позву ў суд Кобрынскага раёна.

22 лістапада старшы ўчастковы інспектар, майор міліцыі Свідуновіч азнаеміў Аляксандра з матэрыяламі адміністрацыйнай

справы. Як выявілася, за ўдзел грамадскага актывіста ў мерапрыемствах па ўшанаванню памяці герояў паўстання Кастуся Каліноўскага ў Свіслачы, Аляксандру Меху ўмяняюць удзел у несанкцыянаваных мітынгу і шэсці, то бок парушэнне ч. 3 арт. 23.34 КаАП “удзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве”. Сведкамі з’яўляюцца супрацоўнікі міліцыі. Справа была перададзена ў суд.

Актывіст лічыць, што ўшанаванне нацыянальных і рэлігійных традыцый, у дадзеным выпадку памяці герояў паўстання Кастуся Каліноўскага на “Дзяды”, не з’яўляецца масавым мерапрыемствам, гэта справа сумлення, самапавагі, элементарнай людзкай годнасці. Судамі і штрафамі ўлады хочуць залякаць грамадства, пазбавіць волі да супраціву.

У атрыманай позве пазначаныя дата і час пачатка разгляду справы – 5 сьнежня 14-30.

Аляксандр Мех запрашае ўсіх жадаючых на пасяджэнне суда.

## Улады наўмысна блытаюць агульна-хрысціянскае сьвята з масавым мерапрыемствам

5 снежня ў судзе Кобрынскага раёна распачаўся працэс над грамадскім актывістам з Кобрына Аляксандрам Мехам.

Суддзя Цімашэнка ўважліва выслухаў прыцягваемага да адміністратыўнай адказнасьці Аляксандра Меха, на якога быў складзены адміністратыўны пратакол за ўдзел у несанкцыянаваных мітынгу і шэсці, то бок парушэнне ч. 3 арт. 23.34 КаАП.

Грамадскі актывіст патлумачыў, што 30 кастрычніка, было рэлігійнае свята, якое падтрымліваецца на дзяржаўным узроўні, “Дзяды”. У гэты дзень таксама як і на “Радаўніцу” ўвесь хрысціянскі свет, выпраўляецца да магілаў сваіх продкаў, каб ушанаваць іх унёсак у развіццё народаў. Вось і я паехаў у Свіслач, каб ушанаваць памяць паўстанцаў-каліноўцаў, якія аддалі сваё жыццё, за волю нашай краіны Беларусі.

Падчас сьвяткавання “Дзядоў”, сведкамі чаго былі прысутныя на судзе міліцыянты, выпадкаў правапарушэння не было. У той дзень міліцыянты ні да кога не падходзілі, заўваг удзельнікам не рабілі, нікога не затрымлівалі і пратаколаў аб правапарушэнні не складалі.




“Задумка аб правапарушэнні ў міліцыянтаў з’явілася толькі 9 лістапада, менавіта гэтай датай датаваны пратакол складзены на мяне ў Свіслацкім РАЎС. Лічу, што ў пратаколе неправільна кваліфікавана падзея - рэлігійна-нацыянальная традыцыя, агульна-хрысціянскае сьвята пераблытана з масавым мерапрыемствам. Складальнікі пратакола выканалі загад вышэйшага кіраўніцтва”, - кажа Аляксандар Мех.

Сведкі, супрацоўнікі міліцыі, калі апісвалі падзеі 30 кастрычніка шмат казалі пра могілкі, пра свята, помнікі, магілы, кветкі, знічы, прамовы ў гонар загінуўшых “За волю Беларусі”... Яны не маглі патлумачыць, чаму не спынілі правапарушэння, але сьцвярджалі, што гэта было несанкцыянаванае масавае мерапрыемства.

Аляксандар Мех лічыць, што ўшанаванне нацыянальных і рэлігійных традыцый, у дадзеным выпадку памяці герояў паўстання Кастуся Каліноўскага на “Дзяды”, не з’яўляецца масавым мерапрыемствам, і не патрабуе дазволу ад уладаў, гэта справа сумлення, самапавагі, элементарнай людзкай годнасці. “Калі б гэта было правапарушэннем, міліцыя адразу бы прыняла меры – папярэдзілі, затрымалі, пакаралі. Але гэтага не было.

Толькі больш чым праз тыдзень прыйшоў загад з "гары" і ў парушэнне заканадаўства быў пачаты адміністратыўны працэс. Кіраўніцтва Свіслацкага РАЎС наўмысна блытае агульна-хрысціянскае сьвята з масавым мерапрыемствам, судамі і штрафамі яны імкнуцца залякаць грамадства, пазбавіць яго волі да супрацыву", мяркуе грамадскі актывіст.

Суд абвесціў перапынак у разглядзе справы да 9-30 раніцы 6 снежня.

## Круглы стол з нагоды чарговай гадавіны прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека




6 снежня праваабаронцы «Брэсцкай Вясны» правялі «круглы стол» з нагоды чарговай гадавіны прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека.

Падчас круглага стала асаблівая ўвага была звернутая на парушэнні права грамадзян на мірны сход.

На круглым стале прысутнічалі актывісты грамадзянскай супольнасці берасцейшчыны. Удзельнікі распавялі аб апошніх фактах судовага пераследу грамадзкіх актывістаў за удзел у масавых мерапрыемствах. Перад прысутнымі выступілі: кандыдат у дэпутаты ПП НС РБ 2016 года Аляксандар Мех, грамадзкі актывіст Яўген Скрабутан і іншыя.

Юрыст Уладзімір Малей падсумаваў вынікі абмяркавання ўзнятай тэмы і як эксперт адзначыў як пазытыўныя так і адмоўныя моманты ў змаганні грамадзкасці за права на Мірны сход.

## По алгарытме «ПІПА» з нагоды чарговай гадавіны прыняцця Усеагульнай Дэкларацыі Правоў Чалавека ў Брэсце прайшла акцыя праваабаронцаў




На вайсковай мове алгарытм «ПІПА» азначае: праблема-інфармацыя-план-акцыя. Гэта значыць, у Брэсце, як і ва ўсёй Беларусі, існуе праблема рэалізацыі правоў чалавека, пра якую назапасіліся горы інфармацыі. Затым складаецца план дзеянняў - і адпаведна яго сама акцыя.

Так дзейнічалі ў горадзе над Бугам брэсцкія праваабаронцы Уладзімір Вялічкін і Уладзімір Малей. Яны напярэдадні Дня правоў чалавека, 9 снежня, распаўсюджвалі спецпраект 45-га нумару газеты «Народная воля» - «За Нашы І вашы правы».

Там на газетнай паласе апублікавалі гутаркі на актуальныя і гарачыя тэмы з праваабаронцам Валянцінам Стэфановічам ( «Чыноўнікі лічаць, Што астатнія - дурні, якія павінны бясплатна працаваць») і юрыстам-праваабаронцам Паўлам Сапелкам. ( «Мы не павінны плаціць за тое, што жывём у гэтай краіне »).

У першай Валянцін Стэфановіч раскрыў праблему прымусовай

працы ў Беларусі, у другой Павел Сапелка спыніўся на «вузлах няўвязак» дэкрэта №3 прэзідэнта РБ «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства» ад 2 красавіка 2015 года, які ў народзе назвалі дэкрэтам аб гультаях.

Дэкрэт гэты, заўважым, датычыцца ўсіх працаздольных жыхароў Беларусі незалежна ад іх грамадзянства, хто знаходзіўся на тэрыторыі рэспублікі больш за паўгода на працягу года. Тыя з іх, хто не працаваў, не плаціў падаткі і каго з іх дэкрэт ня вызваліў ад выплаты збору на фінансаванне дзяржвыдаткаў, ужо атрымліваюць так званыя «лісты шчасця» ад падатковай інспекцыі - паведамлення аб выплаце збору ў памеры ў 20 базавых велічынь, або 3 мільёны 600 тысяч недоминированных рублёў, гэта значыць 360 рублёў па-новаму.

Як патлумачыў юрыст-праваабаронца, «дзяржава замест таго, каб праводзіць працу па выяўленні людзей, якія ўхіляюцца ад выплаты падаткаў, прымусовую працу вырашыла зрабіць нормай .., хоць падаткаабкладанне існуе для таго, каб чалавек рабіў адлічэнні з таго прыбытку, які ён мае. Спачатку павінен быць прыбытак і толькі пасля гэтага - падатак».

Брэсцкія праваабаронцы літаральна за адну гадзіну раздалі мінакам, неабыякавым да сваіх правоў, каля паўтысячы спецвыпускаў «Народнай волі». Большасць з іх з цікавасцю прымалі бясплатныя падарункі. Тых, хто адмаўляўся, былі выключэннем.

Характэрны каментар зрабіла адна брэстчанка, якая атрымала газетны асобнік: «Ведаць пра свае правы - гэта, вядома, добра. Але, мне здаецца, важней, каб гэтыя правы выконваліся. На жаль, сёння нам не могуць гарантаваць права на працу, ад якога залежыць і права на жыццё. А гэта ж тыя правы, якія запісаны ў Канстытуцыі Беларусі. Я прачытала недзе, што сёння ў гарадскім цэнтры занятасці на афіцыйным ўліку складаецца недзе дзьве з паловай тысячы чалавек, а для іх у наяўнасці толькі 800 з невялікім вакансій. Атрымліваецца, што на адну вакансію прэтэндуе два з лішнім чалавека, Аб якім праве на працу на працоўным рынку Брэста можа ісці гаворка? »

## Міжнародны дзень правоў чалавека ў Бярозе




Бярозаўскія праваабаронцы традыцыйна адзначылі Міжнародны дзень правоў чалавека. Яны раздалі 500 экзэмпляраў газеты "Народнай волі" ў рэкламных мэтах са спецвыпускам "За нашы і вашы правы" на вуліцах горада.

Праваабаронцы напаміналі людзям пра Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека.

„Яна абараняе кожнага з нас",- кажа удзельнік акцыі праваабаронца Сяржук Русецкі:

– Правы чалавека ў нашай краіне далёкія ад ідэалу. Таму мы імкнемся, каб людзі ведалі пра свае правы і намагаліся іх абараняць.

Паводле праваабаронцаў, рэдка хто адмаўляўся ад газеты. Абсалютная бальшыня брала "Народную волю" з ахвотай. Пры гэтым людзі адзначалі, што правы яны маюць толькі на паперы:

– Правы, напэўна, толькі на паперы ў нас замацаваныя. Выбары – як бы і ёсць права галасаваць, а на самой справе твой голас нічога там не вырашае… Па кантракту можна звольніць, не высвятляючы прычын.

– Наш чалавек не ведае сваіх правоў, не ведае, як іх бараніць, і гэтаму ніхто не вучыць.

Міжнародны дзень правоў чалавека прымеркаваны да гадавіны прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Гэты дакумент быў прыняты Генеральнай асамблеяй ААН 10 снежня 1948 года.

http://www.racyja.com/hramadstva/mizhnarodny-dzen-pravou-chalaveka-u-bya/

# Пахудаўшы але не скароны фермер з Арлянкі выйшаў на волю




12 снежня пасля 2-х месяцаў арышту фермер з Арлянкі Мікалай Бяльчук выйшаў на волю.

Нагадаем, 9 траўня 2014 года па распараджэнні вышэйшага кіраўніцтва капітан міліцыі Неліповіч паспрабаваў адабраць самаробны трактар фермера Аляксандра Бяльчука. Аляксандар трактар не аддаў, бо Неліповіч не змог прад'явіць неаспрэчных падстаў для сваіх дзеянняў. Але ў выніку канфлікту Аляксандр Бяльчук адседзеў 3 месяцы ў турме горада Баранавічы, а ягоны брат Мікалай быў абвешчаны ў вышук.

Мінула два гады Мікалай нідзе не хаваўся, працаваў, ніякіх позваў з міліцыі не атрымліваў, як, неўзабаве 12 кастрычніка невядомыя людзі ў цывільным на цывілным аўто схапілі яго і кінуліся наўцёкі. Пазней апынулася, што гэта былі пераапранутыя міліцыянты. Падчас транспартыроўкі затрыманага адзін з пераапранутых міліцыянтаў ударыў Мікалая адкрытай далонню у чало. Мікалай перакуліўся, ўдарыўся галавой аб скрыню і на тры дні страціў прытомнасць...

Лекар СІЗА адмовіўся яго прымаць, таму што Мікалай быў "ніякі".

Пазней нехта з лекараў шпіталя па вул. Леніна выдаў даведку, што Мікалай здаровы і тады яго прынялі ў СІЗА. Мікалай мяркуе, што той лекар яго ўвогуле не бачыў. Мікалай доўгі час марна намагаўся дабіцца справядлівасці па факце ягонага збіцця. І у рэшце-рэшт мусеў пайсці на скрайнія меры – ад 8-ай гадзіны раніцы 1 лістапада Мікалай Бяльчук абвесціў сухую галадоўку ў сувязі з бязмежжам работнікаў МУС.

На судзе інспектар Неліповіч сцьвярджаў, што Мікалай яго пакусаў.

Пракурор палічыла віну абвінавачанага Мікалая Бяльчука цалкам даказанай. У сувязі з чым прасіла суд прызначыць абвінавачанаму 2 месяцы арышту.

Адвакаты ж мелі супрацьлеглае мяркаванне:

Начальнік Брэсцкага РАЎС Юры й Грыка пабачыў трактар. Паслаў кіроўцу высвятліць, ці трактар зарэгістраваны. Дакумантаў на трактар не было. Паведаміў дэжурнаму. Прыехаў участковы, потым інспектар ДАІ Сяргей Неліповіч. Участковы з“ехаў па вызаву. Інспектар застаўся сам. Прыехалі Бяльчукі. Запхалі трактар у гараж. Адбыліся падзеі сведкамі якой былі інспектар ДАІ Неліповіч, Бяльчукі Аляксандар, Мікалай, Віктар і іх сваяк Івянец.

Усе сведкі з боку міліцыі не былі сведкамі здарэння, іх сведчанні абапіраюцца на аповядах інспектара Неліповіча. Мінула больш за 2 гады і яны ўспомнілі тое аб чым раней не згадвалася, укусы, называюць элементы вопраткі якой на Неліповічу не было (блакітная кашуля , форменны піджак). Апісваюць выгляд пабітага твара Неліповіча – пасіненне, чырвоны твар, смяшчэне носа, прыпухлы нос, кроў з носа, кроў на твары... Неліповіч прадаставіў калегам звесткі ў карыснай для сябе форме!

Само здарэнне распачалося з невыканання норм заканадаўства, з распараджэння кіраўніцтва, адданага не ў пісьмовай, а вуснай форме. Інспектар ДАІ Сяргей Неліповіч не выкарыстаў наяўныя магчымасці распачаць адміністратыўны працэс. Неліповіч беспадстаўна ўварваўся на прыватны падворак, не прадставіўся,

спрабаваў канфіскаваць трактар не маючы на тое падстаў... Ніводнае з патрабаванняў інспектара ДАІ С.С. Неліповіча не абапертае на законе!

Суд прызнаў Мікалая Бяльчука вынаватым у злачынстве прадугледжаным арт. 364 КК «Гвалт або пагроза выкарыстоўвання гвалту ў дачыненні да супрацоўніка міліцыі» і прызначыў пакаранне ў выглядзе 2 месяцаў арышту.

Дэжурная СІЗА недакладна інфармавала прысутных аб часе выхаду Мікалая Бяльчука на волю, маўляў – у першай палове дня. Як толькі бацька Мікалая з адвакаткай ад“ехалі па справах, як на парозе з“явіўся Мікалай з клункамі ў суправаджэнні ахфіцэра міліцыі, паказалі даведку аб вызваленні і Мікалая сустрэў праваабаронца Уладзімір Вялічкін. «Наша праваахоўная сістэма навучыла нас, берасцейскіх праваабаронцаў жыць па прынцыпе «Ня вер, не бойся, не прасі!» Таму я наўмысна застаўся, бо паталагічна не давяраю нашай праваахоўнай сістэме. Гэта ўжо сталася агульнай практыкай выпускаць вязняў такім чынам, каб іх не прыйшлі сустракаць сваякі, журналісты, знаёмыя... Каб пазбавіць журналістаў інфармацыйнай нагоды, а грамадзтва аператыўнай, праўдзівай інфармацыі» - патлумачыў сітуацыю праваабаронца.

Неўзабаве над“ехалі журналісты, сваякі, бацька. Мікалай Бяльчук распавёў прысутным аб здзеках у СІЗА. «Я не вінаваты», - сказаў фермер: «Я буду скардзіцца надалей, звярнусь, калі трэба, у міжнародныя інстанцыі. Калі б я сапраўды быў вінаваты, мне бы далі ўсе 6 год зняволення».

Пасля інтэрв“ю родныя павезлі слабога пасля галадоўкі фермера ў шпіталь...

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»